Харватыя


МНЕ ДА ГЭТУЛЬ УСЁ ГЭТА НЕ ПАДАБАЕЦЦА, РАБЯТЫ.
Я АДЧУВАЮ СЯБЕ НЕ Ў СВАЁЙ ТАЛЕРЦЫ.


Я РАЗУМЕЮ, ПРА ШТО ТЫ, КАЛОС. АЛЕ ПРАФЕСАР ЛІЧЫЦЬ, ГЭТА ЛЕПШЫ СПОСАБ ДАКАЗАЦЬ ЛЮДЗЯМ, ШТО НЕ ЎСЕ МУТАНТЫ – МОНСТРЫ ДЫ ЛЮДАЕДЫ.
ЯКАЯ АДЧУВАЛЬНАСЦЬ, ЦЫКЛОП, А ЯК ЖА З'ЕДЗЕНЫЯ МНОЙ НАПЯРЭДАДНІ ЦЫПЛЯТЫ ГРЫЛЬ.
ХТО-НЕБУДЗЬ УПЭЎНЕНЫ Ў ТЫМ, ШТО МЫ НЕ ПАМЫЛІЛІСЯ ХАЦЯ Б КАНТЫНЕНТАМ, ШУКАЮЧЫ ДЗЯЎЧЫНУ?


ЯНА ТУТ, ШТОРМ. ЦЭРЭБРА ТОЛЬКІ ШТО ВЫЛІЧЫЎ ВЫКРАДАЛЬНІКАЎ. ЯНЫ Ў ВАШЫМ РАЁНЕ.




У ТОЙ ЖА ЧАС...

ДЗЕ МАЕ ДУРАЦКІЯ ЦЫГАРЭТЫ? У ПАЧЦЫ ЯШЧЭ НЯДАЎНА БЫЛО 15 ШТУК.

Я МАГУ ПАПАЛІЦЬ 15 ЦЫГАРЭТ РАНЕЙ, ЧЫМ ДАГАРЫЦЬ ТВАЯ ЗАПАЛКА. ТРЫЦЦАЦЬ, КАЛІ МОЦНА ПАЖАДАЮ.

САПРАЎДЫ? ЯКІЯ ВЫДАТНЫЯ СУПЕРЗДОЛЬНАСЦІ, РТУЦЬ!









ШТО ЗА?..
ГЭТА ТВАЕ ВЫХАДКІ, БУРБАЛКА?

ТВАЯ ЧАРГА, ЗВЕР.

РУЙНУЙ ПАДЛОГУ, ЦЫКЛОП!

СПАДЗЯЮСЯ, ТЫ ЗЛАДЗІЎ З ТЫМ ХАТНІМ ЗАДАННЕМ, ЯКОЕ МЫ ТАБЕ ДАЛІ, ЧАЛАВЕК-ЛЁД.


ЧАЛАВЕК-ЛЁД?


ПРАБАЧЦЕ, Я НЕПАЧУЎ СІГНАЛ, РАБЯТЫ, АЛЕ ЗДАЕЦЦА, Я ТОЛЬКІ ШТО БАЧЫЎ РАСАМАХУ, ЯКІ КРАЎСЯ ЎЗДОЎЖ СЦЯНЫ, ЗЗАДУ АД ВАС.


ХТО ВЫ?
ДОБРЫЯ ХЛОПЦЫ, ЯК ІНАЧАЙ?


А ЗАРАЗ ПРЫШПІЛІЦЕСЯ І ЗАПЛЮШЧЫЦЕ ВОЧЫ, МІС.
МЫ ЕДЗЕМ ДАДОМУ.


НУ УЖ
НЕ.
ЯНА ПАЛЯЦІЦЬ З НАМУ
НА ДЗІКУЮ ЗЕМЛЮ І ПАРОЙДЗЕ
НА ХАТНЮЮ АДУКАЦЫЮ,
ТЫ – КАВАЛАК ЛАЙНА!


АКРАМЯ ТАГО, Я ЎЖО ПААБЯЦАЎ
ГЭТУЮ АБЕЗЬЯНКУ Ў ХАТНІЯ
УЛЮБЁНЦЫ МАЙМУ ШЭФУ.




ПРАБЛЕМЫ
З РУХАВІКОМ,
ЦЫКЛОП?

ПРАБЛЕМЫ
З ТВАРАМ,
ВЫРАДАК?




ПРЫВІТАННЕ, МУЖЫК, ЯК НАКОНТ УКАЛОЦЦА І ЗАБЫЦЦА?

РАСАМАХА!




ШТО Б ТАМ НІ КАЗАЛІ, ГЭТЫЯ ВАШЫЯ АБЛІПАЛЬНЫЯ ГАРНІТУРЫ НЕ РОБЯЦЬ ВАС ЛЕПШЫМІ, ЦЫКЛОП.
WAM

ТЫ НАСТУПНАЯ, ГЛУПАЯ БЯЛЯВАЯ КАРОВА!
ШТО?

ЗВЕР – УСІМ АСТАТНЫМ: Я І КАЛОС ТОЛЬКІ ШТО АБЯС-ШКОДЗІЛІ БУРБАЛКУ І МОЗГА.
WAM

АЛЕ АСТАТНІЯ ЛЕЗУЦЬ З УСІХ ДЗІР. ХТО-НЕБУДЗЬ ЗБІРАЕЦЦА ДАПАМАГЧЫ НАМ?
ПРАБАЧ, ЗВЕР, У НАС СВАЕ ПРАБЛЕМЫ.


ПРАКЛЯЦЦЕ...


ДОБРА СПРАЦАВАЎ, ЧАЛАВЕК-ЛЁД. НЯХАЙ ЦЯПЕР ШТОРМ ПРЫКОНЧЫЦЬ ЯГО НЯЎЯЛІКАЙ ШАРАВАЙ МАЛАНКАЙ АБО ЯШЧЭ ЧЫМСЬЦІ.
НАВОШТА МАЛАНКІ, КАЛІ ЁСЦЬ СТАРЫ, ПРАВЕРАНЫ СПОСАБ, ЦЫКЛОП?

ГЭТА ЗА ТОЕ, ШТО ТЫ НАЗВАЎ МЯНЕ ГЛУПАЙ КАРОВАЙ, ЗЕМНАВОДНАЕ!

ПАЧАКАЙЦЕ, А ДЗЕ ДЗЯЎЧЫНКА?
БОЖА МОЙ!

НЕ ГАРЛАПАНЬ, ЦЫКЛОП.
ЯНА ЖЫВА І Ў ПАРАДКУ. ЯШЧЭ ГАДЗІНА, І ЯНА ЗНОЎ ПАЧНЕ ДУМАЦЬ ПРА ХЛОПЧЫКАЎ, ВОПРАЦЫ І ЗАЛІКУ ПА ФІЗІЦЫ...

КАЛІ КАНЕШНЕ, ПУНЦОВАЯ ВЕДЗЬМА НЕ ПАДСМАЖЫЦЬ НАС АДНЫМ СА СВАІХ ВЯДЗЬМАРСКІХ ЗАРАДАЎ.

БОЖА, МАГНЕТА МЯНЕ ПРЫКОНЧЫЦЬ!
POLIZEI



РАСАМАХА – МАРВЕЛ: ТЫ МОЖАШ ПРАЧЫТАЦЬ МАЕ ДУМКІ І ПАДАГНАЦЬ СЮДЫ САМАЛЁТ?

КАНЕШНЕ, РАСАМАХА, АЛЕ КАМПУТАР КАЖА, ШТО САМАЛЁТ ЗМОЖА ЗЛАВІЦЬ ВАС, КАЛІ ТЫ РАЗГОНІШСЯ ДА ХУТКАСЦІ 200 КМ/ГАДЗ.


ГАТУЙ КАВУ, МАРВЕЛ. МЫ БУДЗЕМ ПРАЗ ІМГНЕННЕ.

РАСАМАХА, ГЭТА ЦЫКЛОП. ШТО ТЫ РОБІШ?


УЖО ПАД ДЗВЕСЦЕ, КАЛІ Я НЕ ПАМЫЛЯЮСЯ.


ТЫ ЗРОБІШ УСЁ, КАБ УРАЗІЦЬ СЕМНАЦЦАЦІГАДОВУЮ ПРЫГАЖУНЮ Ў АБЛІПАЛЬНАЙ КОФТАЧЦЫ, ЦІ НЕ ТАК?







...ЁН ФАЙНА СПРАЦАВАЎ!


ДРЭННЫЯ НАВІНЫ. САМАЛЁТ БРАТЭРСТВА ЎЛЯТАЕ НА ДЗІКУЮ ЗЯМЛЮ. ТУТ ХЛОПЕЦ У ЛІЛОВЫМ ПЛАШЧУ, КАГОСЬЦІ ЁН МНЕ НАГАДВАЕ.
МАГНЕТА?


ПРАЗ ЛІЧАНЫЯ СЯКУНДЫ БУДЗЕ ПЕКЛА.
КІДАЙЦЕ ЎСІХ, КАГО Ў ДАДЗЕНЫ МОМАНТ Б'ЕЦЕ І БЕГАМ АДСЮЛЬ.
МЫ ЗРАБІЛІ ТОЕ, АБ ЧЫМ НАС ПАСІЛІ. ТАМУ ЎХОДЗІМ, ПАКУЛЬ НАС УСІХ НЕ ПРЫКОНЧЫЛІ.


ПОЗНА, ЦЫКЛОП.
ПРА ШТО ТЫ?

ВІДАЦЬ,
ЗВЕР ПАМЁР!



Працяг будзе...

Сучасныя Людзі Ікс

Пераклад і афармленне -

ComicsBY




ШТОРМ, ГЭТА ЦЫКЛОП. НЕ ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО МЫ ЦЯБЕ ПЭЎНЫМ ЧЫНАМ ЗРАЗУМЕЛІ.

ТЫ СКАЗАЛА, ШТО ЗВЕР ПАМЁР?

Стэн Лі прадстаўляе:

# Людзі Будучыні

Сцэнар - Марк Мілар, малюнак - Адам Куберт, чарніла - Арт Ціберт
колер - Рычард Айсанаў, тэксты - Рычард Старкінг і Комікрафт Уэс Абат,
радактары - Піт Франка і Марк Пауэрс, гал. радактар - Джо Кьюсада, прэзідэнт Біл Джэмас

ДЫ СКУЛЬ МНЕ ВЕДАЦЬ? Я – ЗГОНШЧЫЦА АЎТАМАБІЛЯЎ, А НЕ ЛЕКАР.

АДЗІНАЕ, ШТО Я ВЕДАЮ – НАД ЯГО ГАЛАВОЙ ВЫБУХНУЛА БОМБА, І ЗАРАЗ ЁН ЛЯЖЫЦЬ БЕЗ РУХАЎ І НЕ ДЫХАЕ.

І ЯК МЫ БУДЗЕМ ЯГО АДСЮЛЬ ВЫЗВАЛЯЦЬ?




ШТО ГЭТА БЫЛО?

ХАРВАЦКІЯ СНАЙПЕРЫ, ВЯЛІКІЯ «АМАТАРЫ» МУТАНТАЎ. ЯК ГЭТАМУ ЛЫСАВАТАМУ ЗАНУДЗЕ Ў ІНВАЛІДНАЙ КРЭСЛЕ АТРЫМАЛАСЯ ЗАЦЯГНУЦЬ НАС У ГЭТКУЮ АВАНТУРУ, ЦЫКЛОП?

NIPS

THPP!

БОЖА МОЙ!




ЦЫКЛОП?
ЁН ПА-ЗА ГУЛЬНЁЙ, ШТОРМ. СНАЙПЕРЫ ТОЛЬКІ ШТО ПРАСТРЭЛІЛІ ЯМУ ТУЛАВА. А ЗАРАЗ ЯНЫ ШМАЛЯЦЬ У МЯНЕ.
КАЛІ МЫ АДСЮЛЬ АБЯРЭМСЯ? НІХТО НАВАТ НЕ АБАРАНІЎ ЦЫКЛОПА, БЫЦЦАМ ЯГО ЗАБІВАЛІ НА ПАЛІГОНЕ Ў НАШЫМ ІНСТЫТУЦЕ.


АСТЫНЬ, ЧАЛАВЕК-ЛЁД.
І ХОПІЦЬ ЖАВАЦЬ СОПЛІ, Я Ў ПАРАДКУ!


КАЛОС, ЯК ХУТКА ТЫ ЗМОЖАШ ДАБРАЦЦА ДА ШТОРМ І ЗВЕРА?
МЫ ПАВІННЫ ЗГУРТАВАЦЦА, ПАКУЛЬ МАГНЕТА НЕ ПАЧНЕ СВОЙ ФЕЕРВЕРК.


ПЁТР УЖО ТУТ, ЦЫКЛОП. АЛЕ БАЮСЯ, ШТО ЁН НЕ ЗМОЖА ДОЎГА СТРЫМЛІВАЦЬ НАЦІСК МЯСЦОВЫХ БАЯВІКОЎ.
Я СПРАБАВАЛА НАПУЖАЦЬ ІХ БУРАЙ.
АЛЕ Я ТАКАЯ РАСЧАРАВАНАЯ.
УСЁ, ШТО Ў МЯНЕ АТРЫМАЛАСЯ ЗРАБІЦЬ – ГЭТА ВЫКЛІКАЦЬ ПУХНАТЫ СНЯЖОК.

І ГЭТА ЎСЁ ДЗЕЛЯ ВЫРАТАВАННЯ ДАЧКІ ПРЭЗІДЭНТА, ЯКІ НІ НА КАПЕЙКУ НАС НЕ АЦЭНЬВАЕ.
ЯНЫ НЕ ЛЮБЯЦЬ НАС, ЦЫКЛОП. ДЛЯ ЛЮДЗЕЙ МЫ ПРОСТА НЕБЯСПЕЧНЫЯ, БЕСКАРЫСНЫЯ МОНСТРЫ...

НАВАТ ПРАФЕСАР ІКС БЫЎ ГАТОВЫ АХВЯРАВАЦЬ УСІМІ НАМІ...
...ДЗЕЛЯ РАТАВАННЯ МАЛЕНЬКАГА РАСПЕШЧАНАГА КУРАНЯ, ЯКІ НОСІЦЬ ПРОЗВІШЧА ПРЭЗІДЭНТА.



СУМЛЕННА КАЖУЧЫ, НАВАТ НЕ ХОЧАЦЦА ВЕРЫЦЬ У ТОЕ, ШТО ЧАРЛЬЗ ДАСЛАЎ ВАС НА НЕМІНУЛУЮ СМЕРЦЬ.


НАЗАД, МАГНЕТА.


МЯНЕ НЕ ХВАЛЮЕ, ХТО ТЫ І ШТО ТЫ МОЖАШ ЗРАБІЦЬ.
АДНАК КАЛІ ТЫ ХАЦЯБ НА АДЗІН КРОК НАБЛІЗІШСЯ ДА МАІХ СЯБРОЎ, Я СПАЛЮ Ў ЦЯБЕ ДЗІРУ, ЯК У БАРАНКУ.


НЕ КАЖЫ МНЕ ПРА СВАІХ СЯБРОЎ, ЦЫКЛОП.
ТВАІХ СЯБРОЎ КОЖНЫ ДЗЕНЬ ЗАБІ-ВАЮЦЬ НА ВУЛІЦАХ ТАК ЗВАНАГА ЦЫВІЛІЗАВАНАГА СВЕТА. А ШТО РОБІШ ТЫ, КАБ СПЫНІЦЬ ГЭТА, ТЫ - БРЫДКАЕ ШЧАНЯ?


ВЫСТУПАЕШ СУПРАЦЬ ЗНЯВОЛЕННЯ ДЗЯЎЧЫНКІ, ЯКОЕ МАГЛО Б СПЫНІЦЬ ПРЭЗІ-ДЭНЦКУЮ ПРАГРАМУ ВАРТАВЫХ.


ЯК ВЫ МАГЛІ ПРЫЙСЦІ СЮДЫ І РЫЗЫКАВАЦЬ СВАІМ ЖЫЦЦЁМ, АБАРАНЯЮЧЫ ДАЧКУ ГАЛОЎНАГА ЗАБОЙЦЫ ВАШЫХ СЯБРОЎ?


НЯЎЖО ВАМ НЕ ХОЧАЦЦА ПЛАКАЦЬ ПРЫ ДУМЦЫ ПРА ТОЕ, ШТО ВЫ АХВЯРАВАЛІ СВАІМ СЯБРАМ, КАБ АТРЫМАЦЬ ПАВАГУ ПРЭЗІДЭНТА?
Я ЗРАБІЎ ГЭТА ДЛЯ ВАС, НЯЎДЗЯЧНЫЯ НЕВУЧЫ. АЛЕ ВЫ САПРАЎДЫ ЗАСЛУГОЎВАЕЦЕ ЎСЁ, ШТО АТРЫМЛІВАЕЦЕ АД ЛЮДЗЕЙ.


АДЗІНАЕ, ШТО Я ЗАРАЗ ЖАДАЮ, ГЭТА КАБ ВАРТАВЫЯ, ДЗЕЛЯ ВЯРТАННЯ ЯКІХ ВЫ ЗАРАЗ РЫЗЫКАВАЛІ ЎСІМ, АБРАКЛІ ВАС НА ДОЎГУЮ І ПАКУТЛІВУЮ СМЕРЦЬ.


ПАСЛУХАЙ, НЕ ЎСЁ ТАК ПРОСТА, ЯК ТАБЕ ЗДАЕЦЦА, МАГНЕТА. МЫ НЕ СКОЧЫЛІ АД ЗАХАП-ЛЕННЯ, КАЛІ ВЫРАШЫЛІ СЮДЫ ЕХАЦЬ.
ДОСЫЦЬ, ЦЫКЛОП. МНЕ БОЛЬШ НЕЧАГА ДАДАЦЬ.


ПРОСТА ЎХАДЗІЦЕ.


Я НЕ РАЗУМЕЮ, БАЦЬКА.
ХАЎЕР БЫЎ АДРЭЗАНЫ АД СВАІХ ЛЮДЗЕЙ, І Ў РАСАМАХІ БЫЛА ВЫДАТНАЯ МАГЧЫМАСЦЬ ПАКОНЧЫЦЬ З ІМ.

ЦІ НЕ МАГЛО АТРЫМАЦЦА ТОЕ, ШТО ЁН КРАНУЎСЯ РОЗУМАМ І ДАЛУЧЫЎСЯ ДА ХЕЎРЫ ГЭТЫХ ЗРАДНІКАЎ?
НЕ ДУРЫ, ПУНСОВАЯ ВЕДЗЬМА.
РАСАМАХА ЗАЎСЁДЫ ВЫКОНЛІВАЕ СВАЮ ПРАЦУ, А ЗАБОЙСТВА ЧАЛЬЗА ХАЎЕРА БЫЛО ЯГО ДАЎНЯЙ МАРАЙ.

ТАКІМ ЖА ЧЫНАМ ЁН ПАВОДЗІЎ СЯБЕ, КАЛІ Я ДАСЛАЎ ЯГО ЗАБІЦЬ МАЛЕНЬКАГА ТЫРАНА Ў МАРСКІМ ЗАЛІВЕ АБО ЗАБІЦЬ БОСА ТОЙ КАРПАРАЦЫІ, ЯКАЯ СКІДВАЛА АТРУТНЫЯ АДЫХОДЫ Ў АКІЯН.

ВЫ Ж ВЕДАЕЦЕ, РАСАМАХУ.
ПАКОЛЬКІ ЁН ЦЯГНЕ З ЗАБОЙСТВАМ, ЗНАЧЫЦЬ, СПАЧАТКУ ЁН ХОЧА ПАЗАЛЯТАЦЦА ДА ЯКОЙ-НЕБУДЗЬ ПРЫГАЖУНІ З ІНСТЫТУТА.

Я НЕ ВЕДАЎ, ШТО МАРВЕЛ З ПРАФЕСАРАМ ЯШЧЭ І ХІРУРГІ.

ЯНЫ НЕ ХІРУРГІ. АЛЕ ЯНЫ МОГУЦЬ ВАЛОДАЦЬ ВЕДАМІ ЎСЯГО, ШТО ЗНАХОДЗІЦЦА Ў МЕЖАХ ЧЫТАННЯ ДУМАК.

АКРАМЯ ТАГО, З ДАПАМОГАЙ ЦЭРЭБРА ПРАФЕСАР МОЖА ПАВЯЛІЧВАЦЬ СВАЕ РАЗУМОВЫЯ ЗДОЛЬНАСЦІ Ў ПЯЦЬДЗЕСЯ РАЗОЎ.

ЯНЫ ГЭТА НЕЯК НАЗЫВАЛІ, АЛЕ Я НЕ ПАМЯТАЮ ДАКЛАДНА. ПАДОБНА НА МАЗГАВЫ ШТУРМ, ЗДАЕЦЦА.

МЕЈ

БОБІ ЦЯЖКА ЎСПРЫНЯЎ ТОЕ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ. ЁН ЗАКРЫЎСЯ Ў СВАІМ ПАКОІ І ЎЗЯЎ З МЯНЕ АБЯЦАННЕ НЕ ВЫЛАМВАЦЬ ДЗВЕРЫ.

ТЫ, НАПЭЎНА, ЗАБЫВАЕШ, КОЛЬКІ ЯМУ ГАДОЎ. А ЯК БЫ ТЫ СЯБЕ ПАВОДЗІЎ У ГЭТКАЙ ЖА СІТУАЦЫІ, КАЛІ Б ТАБЕ БЫЛО ПЯТНАЦЦАЦЬ?

ВЕДАЕЦЕ, САМАЕ ДРЭННАЕ, ЯК ЗАЎСЁДЫ, ДАСТАЕЦЦА МНЕ.

І ЎСЁ З-ЗА АДЗІНАГА ГЕНА Ў НАШАЙ КРЫВІ, ЯКІ НЕ ДАЗВАЛЯЕ НАМ НАЗЫВАЦЦА ЛЮДЗЬМІ.

ПРА ШТО ГЭТА ТЫ?

Я ПАТЭЛЕФАНАВАЎ МАЦІ ЗВЕРА, ХАЦЕЎ РАСКАЗАЦЬ ЁЙ ПРА ТОЕ, ШТО ЗДАРЫЛАСЯ...

...А ГЭТАЯ СТАРАЯ ВЕДЬМА НАВАТ НЕ ЎЗЯЛА ТРУБКУ.

Лазарэт у школе Хаўера.












ТОЛЬКІ НЕ КАЖЫ, ШТО ЁН ДА ГЭТАГА ЧАСУ ВІНАВАЦІЦЬ СЯБЕ.

ТЫ ЖАРТУЕШ? ЦЫКЛОП ГАТОВЫ ВІНАВАЦІЦЬ СЯБЕ НАВАТ ЗА ТОЕ, ШТО НА ВУЛІЦЫ ІДЗЕ ДОЖДЖ, РАСАМАХА.

ЁН КІРАВАЎ АПЕРАЦЫЯЙ, У ЯКОЙ АДЗІН З НАС ЛЕДЗЬ НЕ ЗАГІНУЎ. НЕ ДЗІЎНА, ШТО НАШ ДЗІВАКАВАТЫ ЛІДАР, ЯКОМУ ЎСЯГО ВАСЕМНАЦЦАЦЬ ГАДОЎ, АДЧУВАЕ СЯБЕ НЕ ЛЕПШЫМ ЧЫНАМ.

ТЫМ БОЛЬШ, ЁН НЕ ХАЦЕЎ ІСЦІ НА ГЭТАЕ ЗАДАННЕ, ПАКУЛЬ ПРАФЕСАР НЕ ПЕРАКАНАЎ ЯГО.










ШЧЫРА?


Я НЕ ЎПЭЎНЕНА, ШТО ТЫ МНЕ ПАДА-БАЕШСЯ, РАСАМАХА.
ТЫ ДАКАЗАЎ, ШТО ТЫ САПРАЎДНЫ ІКС-МЭН, АЛЕ Я НЕ ВЕРУ, ШТО ТЫ ТАК РЭЗКА ПАЧАЎ ПАДЗЯЛЯЦЬ ІДЭІ І ДУМКІ ПРАФЕСАРА ХАЎЕРА.


З-ЗА АБАРОНЫ ПРАГРАМЫ «ЗБРОЯ ІКС» Я НЕ МАГУ ПРАЧЫТАЦЬ ТЫЯ ДУМКІ, ЯКІЯ ТЫ ХАВАЕШ АД МЯНЕ, АЛЕ Я ЎСЁ РОЎНА АДЧУ-ВАЮ, ШТО ТЫ ПРЫЙШОЎ СЮДЫ З ДРЭННЫМІ НАМЕРАМІ.
Я ЛІЧУ, ШТО ЛЮДЗІ, ЯКІЯ ПРАВОДЗІЛІ НАД ТАБОЙ ЭКСПЕРЫМЕНТЫ ЎСЕ ГЭТЫЯ ГАДЫ, ЗАКЛАЛІ Ў ЦЯБЕ ШМАТ ЗЛА, А ГЭТА СУПЯРЭЧЫЦЬ ПРЫНЦЫПАМ НАШАЙ ШКОЛЫ. І...


...Я Б ВЕЛЬМІ, ВЕЛЬ-МІ ЖАДАЛА НІКОЛІ НЕ СУСТРАКАЦЬ ЦЯБЕ.


ТАДЫ ЧАМУ Я ТАБЕ ТАК ДА СПАДОБЫ?


Я Б САМА ХАЦЕЛА ГЭТА ВЕДАЦЬ.

НАЗІРАЛЬНЫ ПАКОЙ

ШЧЫРА КАЖУЧЫ, Я ЗДЗІЎЛЕНЫ, ШТО ПРЭЗІДЭНТ УСЁ Ж ТАКІ ПРЫПЫНІЎ ПРАГРАМУ ВАРТАВЫХ, НЯГЛЕДЗЯЧЫ НА ГРАМАДСКАЕ МЕРКАВАННЕ.

АДНАК Я СКАЗАЎ ЯМУ, ШТО ЗАХОПЛЕНЫ ЯГО РАШЭННЕМ, І МНЕ БЫЛО ПРЫЕМНА ПРЫМАЦЬ УДЗЕЛ У РАТАВАННІ ЯГО ДАЧКІ.




АБКРУЧВАЕЦЕ ПРЭЗІДЭНЦКАЕ АСЯРОДДЗЕ, ПРАФЕСАР?



ЗБІРАЕШСЯ Ў ВАНДРАВАННЕ, ЦЫКЛОП?

ТАК, У МЯНЕ КВІТОК У АДЗІН БОК.

ВАШ ЦУДОЎНЫ ПЛАН ВЯДЗЕ НАС У НІКУДЫ, І Я ЎХОДЖУ З ІНСТЫТУТА, ПАКУЛЬ ЯШЧЭ ХТО-НЕБУДЗЬ НЕ ПАПАКУТАВАЎ ЗА ВАШЫЯ БЕС-КАРЫСНЫЯ ІДЭІ.

НЕ ДУМАЮ, ШТО МЫ ІДЗЕМ У НІКУДЫ, СКОТ. Я ТОЛЬКІ ШТО ДАМОВІЎСЯ ПРА ПЕРШУЮ АФІ-ЦЫЙНУЮ СУСТРЭЧУ ПАМІЖ ЛЮДЗЬМІ І МУТАНТАМІ І СПЫНІЎ ПРАГРАМУ ВАРТАВЫХ.

ЛІЧЫЦЕ, МЫ ПАВІННЫ БЫЦЬ ЗАДАВОЛЕНЫЯ ТЫМ, ШТО ГЭТЫЯ ЛЮДЗІШКІ ЧАСОВА ПАЗБАВІЛІ НАС АД ПЕРАСЛЕДУ?

МЯНЕ НЕ ЦІКАВЯЦЬ З'ЕДКІ З ІХ СТАЛА.

Я ТОЛЬКІ ХАЧУ МЕЦЬ ТЫЯ Ж ПРАВЫ, ШТО І АСТАТНІЯ.

А ПАСПРАБУЙ ПАГЛЯДЗЕЦЬ НА ЎСЁ ІХ ВАЧЫМА, ЦЫКЛОП. З'ЯВІЛАСЯ НОВАЯ РАСА. МУТАНТЫ БАМБУЮЦЬ ІХ ГАРАДЫ І ЗАЯЎЛЯЮЦЬ, ШТО ЯНЫ ЗБІРАЮЦЦА ЗАМЯНІЦЬ ЛЮДЗЕЙ.

ВАРТАВЫЯ БЫЛІ ЎСЯГО ТА ІХ РЭАКЦЫЯЙ У АДКАЗ, АЛЕ ЗАРАЗ, КАЛІ МЫ СУСТРЭНЕМСЯ РАЗАМ ЗА СТАЛОМ ПЕРАМОЎ, МЫ ЗМОЖАМ ПАЧАЦЬ НАШАЕ МІРНАЕ ЖЫЦЦЁ.


А ЧАМУ МЫ ПАВІННЫ ВЕСЦІ ПЕРАМОВЫ З ГНЮСАМІ, З-ЗА ЯКІХ ГЕНРЫ МАКОЙ ДА ГЭТУЛЬ НЕ ПРЫЙШОЎ У СВЯДОМАСЦЬ?
ТАМУ ШТО ЯНЫ ЛЮДЗІ, ЦЫКЛОП. І ХОЧАШ ТЫ ЦІ НЕ, А ТАБЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА ДЗЯЛІЦЬ НАШУ ПЛАНЕТУ З ШАСЦЮ МІЛІЯРДАМІ ЛЮДЗЕЙ.


ІДЭІ МАГНЕТА ПРА НОВЫ, ЦУДОЎНЫ СВЕТ ВЕЛЬМІ ПРЫВАБНЫ, АСАБЛІВА ДЛЯ МАЛАДЫХ МУТАНТАЎ, АЛЕ, ЗРАЗУМЕЙ, ЁН ЗАСТАЕЦЦА САМАЙ СУР'ЁЗНАЙ ПАГРОЗАЙ НАШАМУ ДАЛІКАТНАМУ СВЕТУ.
Я КАНЕШНЕ КАШТУЮ ЎСЕ ФОРМЫ ЖЫЦЦЯ, АДНАК Я Б БЕЗ ВАГАННЯ РАЗБУРЫЎ ЯГО МОЗГ, КАЛІ Б НЕ ЗВЫШТРЫВАЛЫ ШЛЕМ, ЯКІМ ЁН АБАРАНЯЕ СВАЮ ГАЛАВУ.


АСТАТНІЯ БЯРУЦЬ ПРЫКЛАД З ЦЯБЕ, СКОТ. ТВОЙ УХОД БУДЗЕ МЕЦЬ ЦЯЖКІЯ НАСТУПСТВЫ ДЛЯ ЎСІХ НАС, Я ВЕЛЬМІ РАЗЛІЧВАЎ НА ЦЯБЕ.
ЧАМУ Б ТАБЕ НЕ ВЯРНУЦЦА Ў СВОЙ ПАКОЙ, РАСКЛАСЦІ РЭЧЫ І ЗАБЫЦЬ ПРА ГЭТУЮ НЕВЯЛІКУЮ НЕСПАДЗЯВАНКУ ПАМІЖ НАМІ?


ПРАФЕСАР... ШТО ВЫ РОБІЦЕ З МАІМ МОЗГАМ?
ПРОСТА ДАДАЮ ГАРМОН АСАЛОДЫ Ў ТВАЮ КРОЎ, КАБ ТРОШКІ СУПАКОІЦЬ ТВОЙ РАЗ'ЮШАНЫ НОРАЎ.
МЫ І ТАК УЖО НАГАВАРЫЛІ АДЗІН АДНАМУ ШМАТ НЕПРЫЕМНАГА, І Я ЛІЧУ, ТЫ ДАСТАТКОВА РАЗУМНЫ МАЛАДЫ ЧАЛАВЕК, КАБ НЕ ПРАЦЯГВАЦЬ ТАКІМ ЖА ЧЫНАМ.


ПРАЧЫТАЙЦЕ, ПРА ШТО Я ЗАРАЗ ДУМАЮ, ПРАФЕСАР!


ТОЕ, ПРА ШТО ТЫ ЗАРАЗ ДУМАЕШ, ЦЯЖКА ПЕРАКАЗАЦЬ.


ШТО Ж, ЗАРАЗ У МЯНЕ ТОЛЬКІ АДНО ЖАДАННЕ.
ПАКЛІЧЦЕ МЯНЕ, КАЛІ ВАМ НАДАКУЧЫЦЬ СЮСЮКАЦЬ З ІМПЕРЫЯЙ ЗЛА.
ЗВЕР - УСІМ ЛЮДЗЯМ ІКС, ЯКІЯ МЯНЕ ЧУЮЦЬ. ПАЎТАРАЮ, ЗВЕР КЛІЧА ЎСІХ ЛЮДЗЕЙ ІКС, ЯКІЯ ЗНАХО-ДЗЯЦЦАЎ БУДЫНКУ...


ХТО-НЕБУДЗЬ ЗАЙДЗІЦЕ Ў ЛАЗАРЭТ І ПАТЛУ-МАЧЦЕ, ЧАМУ МАЕ ВАЛАСЫ СТАЛІ СІНІМІ?

САРДЭЧНА
ЗАПРАШАЕМ НА
ДЗІКУЮ ЗЯМЛЮ,
БРАТ ЦЫКЛОП.


Працяг будзе...

Лондан

Стэн Лі прадстаўляе:

# ПАЛІ БІТВАЎ

у перакладзе ComicsBY

Марк Мілар, Эндзі Куберт, Дэні Майк, Джо Вімс, Рычард Айсанаў,
Піт Франка, Марк Паўэрс, Джо Кесада, Біл Жээмас




ШТО АДБЫВАЕЦЦА?
БРАТЭРСТВА МУТАНТАЎ НАНЕСЛА БОМБАВЫ ЎДАР ПА АНГЕЛЬСКАМУ ПАРЛАМЕНТУ І АКАЛЯЮЧЫМ БУДЫНКАМ.
КАМІТЭТ ПА НАДЗВЫЧАЙНЫМ СІТУАЦЫЯМ ЗАГАДАЎ СУПАКОІЦЬ МАСАВЫЯ ХВАЛЯВАННІ НА ЎЗБЯРЭЖЖЫ.


ВЯРТАЙЦЕСЯ ХУТЧЭЙ. УСЁ ПАД КАНТРОЛЕМ, ТАК?


ДЗІВАКІ.
МЫ ГАТОВЫЯ, ЛЯЦІ СЮДЫ, ЦЫКЛОП.


А ЯК НАКОНТ ПАПЯРЭДЖАННЯ, РТУЦЬ?
НЕ ЗРАЗУМЕЎ?


МЫ СКАЗАЛІ ЛЮДЗЯМ, ШТО ДАДЗІМ ІМ 15 ХВІЛІН ДЛЯ ЭВАКУАЦЫІ, А ТЫ ПАЧАЎ БАМБІЦЬ УЖО ПРАЗ ТРЫ ХВІЛІНЫ.
ТЫ ШТО, ЗАБЫЎ, ШТО ТЫ – АДЗІНЫ З НАС, ХТО МОЖА РУХАЦЦА ХУТЧЭЙ ГУКА?

НЕ ПРЫМАЙЦЕ ГЭТА БЛІЗКА ДА СЭРЦА, СЯБРЫ.
УПЭЎНЕНЫ, ЁН ХОЧА АДДЗЯЧЫЦЬ МОЗГА ЗА ВЫДАТНЕЙШУЮ МАСКІРОЎКУ І ПАВІНШАВАЦЬ УСІХ АСТАТНІХ З УДАЛЫМ ЗРЫВАМ ПЛАНАЎ АНГЕЛЬСКАГА ЎРАДА ПА ВЫТВОРЧАСЦІ ЎЛАСНЫХ ВАРТАВЫХ.


ГЭТА НЕ ЖАРТ, РТУЦЬ. МАГНЕТА ЗАДУМВАЎ БЯСКРОЎНУЮ АПЕРАЦЫЮ, І ТЫ ГЭТА ВЕДАЎ.


ТАБЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА ПРАБАЧЫЦЬ МАЙГО БРАТА ЗА НЕЦЯРПЕННЕ, ЦЫКЛОП.
ПЯТНАЦЦАЦЬ ХВІЛІН МОГУЦЬ ПАКАЗАЦЦА БЯСКОНЦЫМІ, КАЛІ ТВАЁ СЭРЦА АДСТУКВАЕ 25 УДАРАЎ У СЯКУНДУ.
МНЕ ДА ЛІХТАРА, ЯК Б'ЕЦЦА ЯГО СЭРЦА, ВАНДА. НЯЎДО ГЭТА АПРАЎДВАЕ ЯГО ЎЧЫНАК?


ВЯРТАЕМСЯ. УСІМ ЗАНЯЦЬ МЕСЦЫ І ПАДРЫХТАВАЦЦА. ДЗІКАЯ ЗЯМЛЯ ЧАКАЕ НАС.








Непры-
емнасці?

Цыклоп па-ранейшаму не адказвае, Логан. Гэта значыць, ці ён выключыў сувязь, ці ён зараз на востраве ў паўднёвым моры. Там нашыя сігналы прымаюцца дрэнна.

Як бы я хацела пазбавіцца ад гэтага непрыемнага пачуцця, якое не адпускае мяне пасля яго ўхода з каманды.







НА МАЮ ДУМКУ, УСЕ БЫЛІ НЕ ПРАВЫ НАКОНТ ЦЯБЕ, ЦІ НЕ ТАК, МІСТАР РАСАМАХА?


ДЫ НЕ, ДЖЫНА. ЯНЫ БЫЛІ ЦАЛКАМ ПРАВЫ.




Белы дом
Я ЯШЧЭ РАЗ ПРАШУ ПРАБАЧЭННЯ ЗА ЛОНДАН, МІСТОР ПРЭЗІДЭНТ...

Я ТОЛЬКІ СПАДЗЯЮСЯ, ШТО ДАДЗЕНАЕ ЗДАРЭННЕ НЕ ПАЎПЛЫВАЕ НА ВАША РАШЭННЕ ПА СПЫНЕННЮ ПРАГРАМЫ ВАРТАВЫХ.
НІКОЛЬКІ, ПРАФЕСАР ХАЎЕР. НЯЎЖО МЫ МОЖАМ ПАСЛЯ ЎСЯГО, ШТО ВАШЫЯ СТУДЭНТЫ ДЛЯ НАС ЗРАБІЛІ, АПРАЎДВАЦЬ ГЭТЫЯ НЕЎПАРАДКАВАНЫЯ НАПАДЫ НА МУТАНТАЎ?

УСЕ ЗГОДНЫ, ШТО ПЕРАМОВЫ – ЛЕПШЫ СПОСАБ ВЫРАШЭННЯ КАНФЛІКТУ, АЛЕ БАЮСЯ, ШТО ВАРТАВЫМ ПРЫЙДЗЕЦЦА ВЫКАНАЦЬ ЯШЧЭ АДНУ, АПОШНЮЮ МІСІЮ.

НЕ ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО ПРАВІЛЬНА ВАС ЗРАЗУМЕЎ.

ДЗІКАЯ ЗЯМЛЯ, ПРАФЕСАР.

МЫ НАРЭШЦЕ ЗНАЙШЛІ ЯЕ МЕСЦАЗНАХОДЖАННЕ.

О БОЖА!

СУМЛЕННА КАЖУЧЫ, МЫ НАЎРАД ЦІ ЯЕ АДШУКАЛІ, АЛЕ ПАРУ ТЫДНЯЎ ТАМУ НАШЫМ СПАДАРОЖНІКАМ УТРЫМАЛАСЯ ЗАФІКСАВАЦЬ СІГНАЛ, ЯКІ ЙШОЎ У ГЭТЫМ РАЁНЕ АД ЧОРНАЙ ПТУШКІ.

У НАС НАВАТ АТРЫМАЛАСЯ РАЗГЛЯДЗЕЦЬ ВОСТРАЎ ДАСТАТКОВА БЛІЗКА. НАГРУВАШЧВАННЕ ВЯЛІЗНЫХ КАМЯНЁЎ ВАКОЛ ВОСТРАВА АКАЗАЛАСЯ НА САМОЙ СПРАВЕ СКЛАДАНАЙ ТРОХВЫМЕРНАЙ ГАЛАГРАМАЙ.

А ВОСЬ І ТЫ, ЦЫКЛОП.

ЦІШЭЙ, ШТОРМ.

ЦІ АЗНАЧАЕ ГЭТА, ШТО ВЫ РЫХТУЕЦЕСЯ ДА НАПАДУ?

ТАК, ГЭТА ТАК. Я ЎЖО ПАРАІЎСЯ З ВАЕ́НЫМІ, І ЯНЫ АДЗІНАГАЛОСНА ПРАГАЛАСАВАЛІ «ЗА».
ГЭТЫ ВОСТРАЎ – ПРЫСТАНАК ТЭРАРЫСТАЎ, ВОРАГАЎ ЧАЛАВЕЦТВА. І БЫЛО Б БЕЗАДКАЗНА З НАШАГА БОКУ НЕ НАНЕСЦІ ПА ІМ УДАР, КАЛІ ЎЖО НАМ ТАК ПАЛЁСАВАЛА.
ШТО АДБЫВАЕЦЦА, ПРАФЕСАР?
ЯНЫ ЗБІРАЮЦЦА ЗАБІЦЬ ЦЫКЛОПА?
АДЗІН З МАІХ СТУДЭНТАЎ НА ВОСТРАВЕ, МІСТАР ПРЭЗІДЭНТ.
ЁН ДАЛУЧЫЎСЯ ДА БАНДЫ ТЭРАРЫСТАЎ. ТУТ НАВАТ НЕ ПРА ШТО РАЗМАЎЛЯЦЬ..
СПАДЗЯЮСЯ, ВЫ РАЗУМЕЕЦЕ, ШТО ПРАВАЦЫРУЕЦЕ МАГНЕТА І СТАВІЦЕ ПАД ПАГРОЗУ ЖЫЦЦЁ КОЖНАГА МУЖЧЫНЫ, ЖАНЧЫНЫ І ДЗІЦЯ НА НАШАЙ ПЛАНЕЦЕ?
ШКАДУЮ, ПРАФЕСАР.
АЛЕ МЫ НЕ МОЖАМ СТРАЦІЦЬ ТАКІ ШАНЕЦ.


Дзікая зямля


ТЫ ВЫГЛЯДАЕШ ЗАНЕПАКОЕНЫМ, ЦЫКЛОП.


Я ДУМАЮ ПРА ЗАБІТЫХ ЛЮДЗЕЙ, ЯК БЫЦЦАМ БЫ ЯНЫ БЫЛІ МАІМІ СУСЕДЗЯМІ АБО СЯБРАМІ, МАГНЕТА.
АЛЕ ТЫ НІКОГА НЕ ЗАБІВАЎ, СКОТ. БОМБЫ ЗАЎСЁДЫ ВЫБУХАЕ РТУЦЬ.


Я ЧУЎ, ЁН СПАДЗЯЕЦЦА, ШТО ПРАЯЎЛЕННЕ ПУБЛІЧНАЙ ЖОРСТКАСЦІ МОЖА ЗГУРТАВАЦЬ НАС. АЛЕ, БАЮСЯ, УСЁ АТРЫМАЕЦЦА НААДВАРОТ.


ЧАЛАВЕК – АДЗІНАЯ ЖЫВАЯ ІСТОТА, ЯКАЯ АТРЫМЛІВАЕ ЗАДАВАЛЬНЕННЕ, КАЛІ ПРЫНОСІЦЬ БОЛЬ І ПАКУТЫ АКАЛЯЮЧЫМ.
ЛЮДЗІ БУДУЧЫНІ – ІНШЫЯ. ЯНЫ ЛЮБЯЦЬ УСЁ ЖЫВОЕ НА ЗЯМЛЕ.


НАВАТ ТЫХ ЛЮДЗЕЙ, ЯКІХ РАЗАРВАЛА НА КАВАЛАЧКІ Ў ЛОНДАНЕ?


Я ВЕДАЮ, ГЭТА ЦЯЖКА, СКОТ. АЛЕ ТАБЕ ПРЫЙДЗЕЦЦА НА ХВІЛІНКУ ЗІРНУЦЬ НА СВЕТ ШЫРЭЙ.
НАВАТ ЛЕПШЫМ СЯРОД НАС ЧАСАМ ЗДАРАЕЦЦА РАБІЦЬ ДРЭННЫЯ РЭЧЫ ДЗЕЛЯ ВЯЛІКАГА ДАБРА.


НАШАМУ СВЕТУ ЎЖО БОЛЬШ ПЯЦІ МІЛІЯРДАЎ ГАДОЎ, А ЛЮДЗІ ЎСЯГО ЗА 200 ГАДОЎ ДАВЯЛІ ДА ТАКОГА СТАНУ АКАЛЯЮЧУЮ СЕРАДУ, ШТО МЫ АМАЛЬ ЗМОЖАМ ПРАІСНАВАЦЬ ЯШЧЭ НЕКАЛЬКІ ДЗЕСЯЦІГОДДЗЯЎ.


ЯНЫ ПРЫДУМАЛІ ВОЙНЫ. ЯНЫ ВЫНАЙШЛІ ВЫДАСКАНАЛЕНЫЯ КАТАВАННІ.
УСЕ МАЕ СВАЯКІ БЫЛІ ЗАСТРЭЛЯНЫ, АТРУЧАНЫ ГАЗАЙ АБО СПАЛЕНЫ ЖЫЎЦОМ ПАД ЧАС ЧАРГОВЫХ ВЫБЛІСКАЎ ГЕНАЦЫДА.


ЛЮДЗІ КАНЧАТКОВА САПСАВАНЫЯ ІСТОТЫ, І НАШ АБАВЯЗАК ВЯРНУЦЬ ІХ ДА ПЕРШАПАЧАТКОВАМУ ІСНАВАННЮ.
КАЛІ БЫЦЬ ДАКЛАДНЕЙ, ГЭТА НАШ МАРАЛЬНЫ АБАВЯЗАК.


ТЫ ГАВАРЫШ ЯК АДОЛЬФ ГІТЛЕР, АДЗІН У АДНО.


ЁН БЫЎ АДНІМ З ІХ, СКОТ.
Я ТОЛЬКІ ХАЧУ ПАКАЗАЦЬ ІМ УСЕ ПАМЫЛКІ, ЯКІЯ ЯНЫ ЗРАБІЛІ, А ТАМ, ДЗЕ ГЭТА НЕАБХОДНА, ВЫКАРЫСТОЎВАЦЬ ПРЫЁМЫ ПЕРАДАВОЙ НЕЙРАХІРУРГІІ.


Я НЕ ЖОРСТКІ ЧАЛАВЕК, ЗРАЗУМЕЙ. УЖО ДАЎНЫМ-ДАЎНО Я НЕ ЗАБІВАЎ СВАІМІ РУКАМІ.


АДЗІНАЕ, ЧАГО Я ЖАДАЮ, ГЭТА ЗРАБІЦЬ СВЕТ ТАКІМ ЖА ПРЫГОЖЫМ, ЯК МАЕ МАЛЕНЬКІЯ ДЖУНГЛІ, І ВЫХАВАЦЬ РАЗУМНЫХ, МОЦНЫХ УНУКАЎ, ЯКІЯ БУДУЦЬ ДЫХАЦЬ ПРАЗРЫСТАЙ ПАВЕТРАЙ.


Я НІГОГА НЕ ЗАБ'Ю ДЗЕЛЯ ЦЯБЕ, МАГНЕТА!

А Я І НЕ ПРАШУ, ЦЫКЛОП.

НАШ ВЫДАТНЫ СВЕТ УЖО ХУТКА БУДЗЕ ТУТ.

ДАРЭЧЫ, ТЫ БЫЎ СЁННЯ Ў ПАКОІ МРОЯЎ, КАЛІ ПУНСОВАЯ ВЕДЗЬМА ЧЫТАЛА ВЕРШЫ?

ТАК, КАНЕШНЕ. АЛЕ ШТО ГЭТА ЗА БІЛІБЕРДА, НА ЯКОЙ ЯНА ГАВАРЫЛА? НЕШТА НАКШТАЛТ НОВАЙ МОВЫ?

НА САМОЙ СПРАВЕ, ГЭТА АЛФАВІТ МУТАНТАЎ. Я ХАЧУ, КАБ УСЕ ТУТ ПАЧАЛІ КАРЫСТАЦЦА ІМ ПАСЛЯ ЛЕТАШНЯГА СОНЦАСТАЯННЯ.

ВЕДАЕШ, ЯНА ЗНАХОДЗІЦЬ ЦЯБЕ ВЕЛЬМІ ПРЫГОЖЫМ. ЯНА НАВАТ СКАЗАЛА, ШТО ХАЦЕЛА Б СТАЦЬ ТВАЁЙ ДЗЯЎЧЫНАЙ У БУДУЧЫМ.

А ТЫ, ЦЫКЛОП?

ШТО?

МАГЧЫМА, ГЭТА ГУЧЫЦЬ ЯК ЗВЫЧАЙНАЯ ПРАПАНОВА, АЛЕ КАЛІ РТУЦЬ СЁННА ЎВЕЧАРЫ...

...КАЛІ ТЫ ЯГО ЎБАЧЫШ, ПАВЕДАМІ МНЕ, ДЗЕ ЁН ЗНАХОДЗІЦЦА.

ЧАМУ ЯМУ ТАК ПАДАБАЕЦЦА ЗДЗЕКВАЦЦА З МЯНЕ, ВАНДА?

НЯЎЖО Я ТАКІ ДРЭННЫ СЫН, КАБ ПРЫМУШАЦЬ МЯНЕ РЫДАЦЬ КОЖНУЮ НОЧ?




БЕДНЫ ПІЕТРА... НАВАТ КАЛІ ТЫ БЫЎ МАЛЕНЬКІМ, БОЛЬШ ЗА ЎСЁ ТЫ ХАЦЕЎ, КАБ БАЦЬКА ГАНАРЫЎСЯ ТАБОЙ.



ХРАМІРАВАНЫЯ МАШЫНЫ, КАБ ЗНІШЧЫЦЬ МАЙСТРА МАГНЕТЫЗМУ?

НЕ ДЗІЎНА, ШТО МЫ КЛІЧАМ СЯБЕ ЛЮДЗЬМІ БУДУЧЫНІ.





УСЕ ГЭТЫЯ ДУРНІ ЗАСЛУЖЫЛІ ТАГО, КАБ УСТАЦЬ НА КАНВЕЕР СМЕРЦІ.


Б-БАЦЬКА?
ШТО ВЫ РОБІЦЕ?
А НА ШТО ГЭТА ПАДОБНА, ДУРАНЬ? Я ІХ ПЕРАПРАГРА-МІРУЮ.


ЗМЯНЯЮ ІХ ПРАГРАМУ ПА ВЫЯЎЛЕННІ І ЗНІШЧЭННІ ЎСІХ, У КАГО ЁСЦЬ ГЕНЫ МУТАНТАЎ, НА ВЫСОЧВАННЕ І ЗАБОЙСТВА ТЫХ, У КАГО ГЭТЫХ ГЕНАЎ НЯМА.


БОЖА МОЙ.

ПАЧУЙЦЕ МАЕ СВОВЫ, БРАТЫ, ТЫСЯЧЫ... НЕ, СОТНІ ТЫСЯЧ ЛЮДЗІШАК ЗАГІНУЦЬ СЁННЯ ЗА КОЖНАГА МУТАНТА, ЯКІЯ Л'ЮЦЬ КРОЎ ДА ВАШЫХ НОГ.
НЯХАЙ ЯНЫ ДАВЕДАЮЦЦА, ШТО ВЫ АДЧУВАЕЦЕ. Я ХАЧУ, КАБ ЯНЫ АДЧУЛІ, ЯК ПАХНЕ ІХ СМАЖАНАЕ ЦЕЛА.


А ЯК ЖА ТОЙ ВЫДАТНЫ СВЕТ, ПРА ЯКІ ТЫ КАЗАЎ МНЕ, МАГНЕТА? Я ЛІЧЫЎ, ТЫ ХОЧАШ ВУЧЫЦЬ ЧАЛАВЕЧУЮ РАСУ, А НЕ ЗНІШЧАЦЬ ЯЕ.


О, УСЁ ЧАЛАВЕЦТВА НЕ ЗАГІНЕ СЁННЯ.
ТОЛЬКІ АМЕРЫКА.

ДЛЯ ІХ НАДЫЙДЗЕ КАНЕЦ СВЕТУ, КАЛІ ЯНЫ ЎБАЧАЦЬ, ЯК Я ТАНЬЧУ НА РЭШТКАХ ІХ ПРЭЗІДЭНТА.

ЯНА ПАЧАЛАСЯ, ЦІ НЯ ТАК?

ВАЙНА, ЯКУЮ ХАЎЕР ЗАЎСЁДЫ ІМКНУЎСЯ ПРАДУХІЛІЦЬ.

ЦЯПЕР ІХ НЕ СПЫНІЦЬ, ЦЫКЛОП. МЫ НЕ ЗМОЖАМ СПЫНІЦЬ БАЦЬКУ, НАВАТ КАЛІ МЫ ЗАХОЧАМ.

НЯХАЙ ЭВАЛЮЦЫЯ РОБІЦЬ СВАЮ СПРАВУ, МОЙ СЯБРА. Я ВЕДАЮ, ГЭТА ЦЯЖКА, АЛЕ ШТО Б НІ ЗДАРЫЛАСЯ, УСЁ ДА ЛЕПШАГА.

АДЧАПІСЯ, НІКЧЭМНАСЦЬ!

Вашыгтон,
акруга Калумбія.

Ах ты двудушны гнюс!












УВАГА ЎСІМ!
КАЖА ПРАФЕСАР ІКС. Я ПЕРАДАЮ ТЭЛЕПАТЫЧНАЕ ПАПЯРЭДЖАННЕ ЎСІМ РАЗУМОВЫМ ФОРМАМ ЖЫЦЦЯ, ЯКІЯ ЗНАХОДЗЯЦЦА Ў ВАШЫНГТОНЕ.


МНЕ ТОЛЬКІ ШТО СТАЛА ВЯДОМА, ШТО МАГНЕТА ПАКІНУЎ ДЗІКУЮ ЗЯМЛЮ З ЦЭЛАЙ АРМІЯЙ ПЕРАПРАГРАМІРАВАНЫХ ВАРТАВЫХ І НАКІРОЎВАЕЦЦА СЮДЫ З МЭТАЙ ЗНІШЧЭННЯ ГОРАДА.
ХУТКАСЦЬ, З ЯКОЙ ЯНЫ РУХАЮЦЦА, ДАЗВАЛЯЕ СЦВЯРДЖАЦЬ, ШТО ЧАС ІХ З'ЯЎЛЕННЫ - КАЛЯ ДВУХ ГАДЗІН.


ВОЙСКА І СІЛЫ ПРАВАПАРАДКУ ЎЖО ІНФАРМАВАНЫ. У ДАДЗЕНЫ МОМАНТ АБВЕШЧАНА ПОЎНАЯ ЭВАКУАЦЫЯ НАСЕЛЬНІЦТВА


ПАВЕДАМЛЯЮ, ШТО Я І МАЕ СТУДЭНТЫ ЗРОБІМ УСЁ МАГЧЫМАЕ, КАБ АБАРАНІЦЬ ВАС.

Дзікая зямля.

ЦЫКЛОП, КУДЫ ТЫ?

ДАХАТЫ, КУДЫ Ж ЯШЧЭ?

Я НЕ ЗБІРАЮСЯ, ЯК ІДЫЁТ, ТЫРЧАЦЬ ТУТ, ПАКУЛЬ ДЖЫНА І ІНШЫЯ БУДУЦЬ ГІНУЦЬ У СУТЫЧЦЫ З ВАШЫМ ВАР'ЯТАМ ТАТКАЙ

АЛЕ ЁН УЖО НА ПАЎДАРОГІ ДА ВАШЫНГТОНА, СКОТ. ТЫ НЕ ЗМОЖАШ ЯГО ДАГНАЦЬ.

Я ПАВІНЕН ПАСПРАБАВАЦЬ. НЕ ЖАДАЮ, КАБ ТРАГЕДЫЯ, ЯКАЯ АДБЫЛАСЯ, ПАЎТАРЫЛАСЯ НА МАЁЙ РАДЗІМЕ. Я ЗРАБЛЮ ЎСЁ, ШТО Ў МАІХ СІЛАХ.

У ЦЯБЕ НІЧОГА НЕ АТРЫМАЕЦЦА, ЦЫКЛОП. НАВАТ КАЛІ ТЫ БУДЗЕШ ГНАЦЬ ЧОРНУЮ ПТУШКУ З МАКСІМАЛЬНАЙ ХУТКАСЦЮ, ТЫ ЎСЁ АДНО НЕ ПАСПЕЕШ. ХУТКАСЦЬ ТВАЙГО САМАЛЁТА НЕДАСТАТКОВАЯ.

Я, МОЖА, І НЕ ПАСПЕЮ, РТУЦЬ...

...А ВОСЬ ТЫ ПАСПЕЕШ.

ХІБА НЕ НАДЫШОЎ ЧАС ПАКАЗАЦЬ СВАЙМУ ВАР'ЯЦКАМУ БАЦЬКУ ХТО ТЫ НАСАМРЭЧ?

УВАГА! ЗВЕР І КАЛОС, ВЫ ПРАДУХІЛЯЕЦЕ ВУЛІЧНЫЯ БЕСПАРАДКІ. Я, ШТОРМ І ЧАЛАВЕК-ЛЁД КАНТРАЛЮЕМ ПАВЕТРА. ПАКУЛЬ МЫ НЕ ПАЧАЛІ, У КАГО-НЕБУДЗЬ ЁСЦЬ ПЫТАННІ?

ЦІ НЕЛЬГА МНЕ ПАКУЛЬ ПРЫНЯЦЬ ДУШ, МАРВЕЛ?

НЕ, АЛЕ ТЫ МОЖАШ СПЫНІЦЬ СВАЕ ДУРНЫЯ ЖАРТЫ, ШТОРМ. ЦЯПЕР НЕ ЧАС ДЛЯ ПУСТОЙ БАЛБАТНІ.

СЮДЫ НАКІРОЎВАЮЦЦА ТРЫСТА ЦІ ЧАТЫРЫСТА ВАРТАВЫХ. НАВАТ КАЛІ Б ІХ БЫЛО Ў ДЗЕСЯЦЬ РАЗОЎ МЕНШ, ІМ БЫ НІЧОГА НЕ КАШТАВАЛА ЗРАЎНЯЦЬ ВАШЫНГТОН З ЗЯМЛЁЙ.




ГЭЙ! З МЯНЕ ЦЯПЕР ЗРОБЯЦЬ АМЛЕТ!
НЕ, КАЛОС, НЕ! У ТАБЕ 230 КІЛАГРАМ ЧЫСТАЙ АРГАНІЧНАЙ СТАЛІ, І ТЫ АДЗІН З НАЙМАЦНЕЙШЫХ МУТАНТАЎ НА ЗЯМЛІ.
ТЫ Ж ДЫЯМЕНТЫ МОЖАШ КРЫШЫЦЬ ПАЛЬЦАМІ... НУ!.. ДАВАЙ ЖА...

...НЯЎЖО ТЫ ДАЗВОЛІШ НЕЙКАМУ РОБАТУ РАЗДУШЫЦЬ СЯБЕ?
ДЫ ГЭТЫЯ СТВАРЭННІ БЫЛІ АСУДЖАНЫ Ў ТОЙ МОМАНТ, КАЛІ НАРАДЗІЛІСЯ!


ГЭЙ! СКАЖЫ, ШТО Я ТАКСАМА КРУТЫ, ДЖЫНА!
Я ТАБЕ НЕ ДЖЫНА, ЧАЛАВЕК-ЛЁД! КЛІЧ МЯНЕ МАРВЕЛ, КАЛІ МЫ Ў БАІ!
ШТОРМ, ДЗЕ ТЫ? СПАДЗЯЮСЯ, НЕ Ў ДУШЫ?
У НАС ТУТ САПРАЎДНАЕ ПЕКЛА.


ЯК БЫЦЦАМ
Я НЕ БАЧУ!


ШТОРМ, ГЭТА ЗВЕР. Я НЕ ВЕДАЮ, ШТО ТЫ РОБІШ З ГЭТЫМІ ВАРТАВЫМІ, АЛЕ Я ЗАХОПЛЕНЫ.
БО ГЭТЫЯ ШАРЫ СВЯТЛА – ТВАІХ РУК СПРАВА?


ТАК... Я ЗНАЙШЛА РЭЦЭПТ НА САЙЦЕ АНАМАЛЬНЫХ ПАГОДНЫХ З'ЯЎ, ЯКІ ТЫ МНЕ ПАКАЗАЎ НА МІНУЛЫМ ТЫДНІ. МОЖАШ ЛІЧЫЦЬ ГЭТА СВАЁЙ ЗАСЛУГАЙ, ГЕНРЫ.


ЗНАЧНА ЗРУЧНЕЙ ПРЫБІРАЦЬ ВАРТАВЫХ НА АДЛЕГЛАСЦІ, ЧЫМ ПАДВЯРГАЦЬ СЯБЕ І АСТАТНІХ НЕБЯСПЕКІ Ў БЛІЗКІМ БОЮ.






РАСАМАХА, ГЭТА МАРВЕЛ. КУДЫ ЦЯБЕ ПАНЕСЛА? Я Ж СКАЗАЛА ТАБЕ ТРЫМАЦЦА ДАЛЕЙ АДСЮЛЬ!

ВЫБАЧАЙ, ДЗЕТКА, АЛЕ Ў АДЗІНОЧКУ Ў ХАЎЕРА НЯМА ШАНЦАЎ СУПРАЦЬ МАГНЕТА. НЕ МАГУ ЗАСТАВАЦЦА НА МЕСЦЫ ПРЫ ДУМЦЫ, ШТО ГЭТЫ НЯГОДНІК ПРЫМУСІЦЬ НАШАГА ЧАРЛІ З'ЕСЦІ ЎЛАСНАЕ КРЭСЛА-КАТАЛКУ.

КЛЯНУСЯ БОГАМ, РАСАМАХА! ТОЛЬКІ ПАДУМАЙ НАШКОДЗІЦЬ ПРАФЕСАРУ І Я...

ВЕР МНЕ, ДЗЕТКА, З ПРАФЕСАРАМ СЁННЯ ЎСЁ БУДЗЕ Ў ПАРАДКУ.

СЛУХАЙЦЕ МЯНЕ ЎВАЖЛІВА, ЖАЛАСНЫЯ ЛЮДЦЫ. ПАЎТАРАЦЬ Я НЕ СТАНУ. УЛАДАМ ВАШАЙ РАСЫ НА ЗЯМЛІ АФІЦЫЙНА ПРЫЙШОЎ КАНЕЦ.

ВАШ ПРЭЗІДЭНТ, ЯКОГА ВЫ ЛІЧЫЛІ САМЫМ МАГУТНЫМ ЧАЛАВЕКАМ У СВЕЦЕ, ЦЯПЕР ВАЛЯЕЦЦА Ў МАІХ НОГ І МОЛІЦЬ ПРА ЛІТАСЦЬ.

ХАЙ ЯГО ПАКАРАННЕ СМЕРЦЮ СТАНЕ ПАПЯРЭДЖАННЕМ ДЛЯ ЛІДАРАЎ ІНШЫХ КРАІН. ІХ ЧАКАЕ ТАЯ Ж ДОЛЯ, КАЛІ ЯНЫ АДМОВЯЦЦА ЎСВЯДОМІЦЬ СВАЁ ЖАЛАСНАЕ МЕСЦА Ў НОВЫМ СУСВЕТНЫМ ПАРАДКУ.

ПАДПАРАДКУЕЦЕСЯ НАМ – І МЫ ЗАХАВАЕМ ВАМ ЖЫЦЦЁ. НАМ ЗАПАТРАБУЮЦЦА РАБЫ І ПРЫСЛУГА

УСЁ, ХТО НЕ ПАДПАРАДКУЕЦЦА, БУДУЦЬ СЦЁРТЫЯ З ТВАРУ ЗЯМЛІ.

АМЕРЫКА ЗАГІНЕ СЁННЯ! 225 ГАДОЎ НЯЦЕРПНАСЦІ І СПАЖЫВЕЦКАГА ПАДЫХОДУ ДА ЎСЯГО...

...НЕ МОГУЦЬ ЗАСТАЦЦА БЯСКАРНЫМІ. ГЭТА БУДЗЕ ЎРОК ДЛЯ ЎСІХ.


ЯКОГА Д'ЯБЛА?..


НАМ З ТАБОЙ ТРЭБА СУР'ЁЗНА ПАГАВАРЫЦЬ, ЭРЫК.

НЕ, НЕ ТРЭБА, ЧАРЛЬЗ. СПАЧАТКУ СКОНЧЫМ НАШУ БІТВУ, ЯКАЯ ПАЧАЛАСЯ Ў ДЖУНГЛЯХ ДВА ГАДЫ НАЗАД...

НЯШЧАСНЫ ПАРАЛІТЫК!.. ГЭТЫМ РАЗАМ Я ПРЫГАТАВАЎ ДЛЯ ЦЯБЕ НЕШТА ГОРШ, ЧЫМ ІНВАЛІДНАЕ КРЭСЛА.

ХТО-НЕБУДЗЬ! ДАПАМАЖЫЦЕ МНЕ ЎЦЯЧЫ АДГЭТУЛЬ! Я ПРАЦУЮ Ў ПАЛОВУ СВАІХ МАГЧЫМАСЦЯЎ, БО...

...МЯНЕ ЎВЕСЬ ЧАС АТАКУЮЦЬ УТРАЯ БОЛЬШ ВАРТАВЫХ, ЧЫМ ЛЮБОГА З ВАС.

ЯНЫ, НАПЭЎНА, ДУМАЮЦЬ, ШТО ТЫ - ГЭТА ТРЫ РОЗНЫХ ЧАЛАВЕКА Ў АДНОЛЬКАВЫХ ГАРНІТУРАХ, ДРУЖА...




КАЗАЎ ВАМ, РАБЯТЫ: НЕ ВАРТА КРЫЎДЗІЦЬ ЧАЛАВЕКА-ІЛЬДА... НЕ ВАРТА...
БОБІ, РАТУЙ БОЖА, АДЫДЗІ Ў БОК. ЯНЫ Ж ВАЛЯЦЦА ПРАМА НА НАС!
LINCOLN MEM.


ВЕДАЕШ, ЧАРЛЬЗ, ТВАЯ СМЕРЦЬ БУДЗЕ АЗНАЧАЦЬ ЗНАЧНА БОЛЬШ, ЧЫМ ПРОСТА ЗАБОЙСТВА СЫНКА-ПЕСТУНКА, ЯКІ ЎЯВІЎ ПРА СЯБЕ...
УБАЧЫЎШЫ, ЯК Я ЗНІШЧЫЎ ЦЯБЕ, СВЕТ АЦЭНІЦЬ, НАРЭШЦЕ, УСЮ НЕДАРЭЧНАСЦЬ ТВАІХ ЖАЛАСНЫХ ІДЭЙ ПРА ІНТЭГРАЦЫЮ ЛЮДЗЕЙ І МУТАНТАЎ. ХАЙ ГЛЯДЗЯЦЬ НА СВАЮ БУДУЧЫНЮ!

УЯЎЛЯЮ, ЯК ЦЯЖКА ТАБЕ ЦЯПЕР, СТАРЫ СЯБАР. ПРА ШТО ДУМАЕ НАЙВЯЛІКІ Ў СВЕЦЕ РОЗУМ ЗА ІМГНЕННЕ ДА СВАЙГО ЗНІШЧЭННЯ?

ТЫ, НАПЭЎНА, КЛЯНЕШ ТОЙ ДЗЕНЬ, КАЛІ Я ЗРАБІЎ АХОЎНЫ ШЛЕМ, ЯКІ АБАРАНЯЕ МЯНЕ АД ТВАЕЙ ТЭЛЕПАТЫІ?

СКАЖАШ ШТО-НЕБУДЗЬ, ПЕРШ ЧЫМ Я РАЗМАЖУ ТВОЙ МОЗГ ПА ЎСІХ ТЭЛЕЭКРАНАХ СВЕТУ?

НІЧОГА НЕ ПРЫХОДЗІЦЬ НА РОЗУМ, ЭРЫК. ПА-МОЙМУ, ТЫ ЎЖО ЎСЁ СКАЗАЎ ЗА МЯНЕ.

ШТО?

ШТО ЧУЎ, БРАТОК.







Я ЦЯПЕР ГУЛЯЮ ЗА ІНШУЮ КАМАНДУ, ПРЫЯЦЕЛЬ.

ТЫ ЗАЎСЁДЫ КАЗАЎ, ШТО ЁСЦЬ ТОЛЬКІ ДВА ШЛЯХІ: АБО ЛЮДЗІ ЗНІШЧАЦЬ НАС, АБО МЫ ВЫНІШЧЫМ ІХ. Я АМАЛЬ ПАВЕРЫЎ, АЛЕ ЧАРЛЬЗ ХАЎЕР ПАКАЗАЎ МНЕ ТРЭЦІ ВАРЫЯНТ.

І ШТО Ж ГЭТА? ТЫ ПРАЦЯГНЕШ РУКУ ЛЮДЗЯМ, ЯКІЯ ВЫКАРЫСТОЎВАЛІ ЦЯБЕ ЯК ЛАБАРАТОРНАГА ПАЦУКА?







Я СПАДЗЯЮСЯ, ШТО ФАКТАР САМАЛЯЧЭННЯ ВЫРАТУЕ ЦЯБЕ ГЭТЫМ РАЗАМ, НЯЎДЗЯЧНЫ БАЯЗЛІВЕЦ.
МОЖА, МАЕ РАНЫ І НЕ ДАЗВОЛЯЦЬ МНЕ ПЕРАДАЦЬ СВЕТ ЛЮДЗЯМ БУДУЧЫНІ СЁННЯ...


АЛЕ Я ХУТЧЭЙ ТЫСЯЧУ РАЗОЎ ЗГАРУ Ў ПЕКЛЕ, ЧЫМ ПАКІНУ ЗЯМЛЮ ЧАЛАВЕЦТВУ!




МАРВЕЛ!
ШТО АДБЫВАЕЦЦА?
ТВОЙ ТАТКА ЗАПУСЦІЎ МАГНІТНЫ ІМПУЛЬС І ЎЗЯЎ ПАД КАНТРОЛЬ УСЮ АТАМНУЯ ЗБРОЮ НА ПЛАНЕЦЕ, РТУЦЬ.
НУ, І ШТО СКАЖАШ?


ДЖЫНА, ГЭТА ЗВЕР... ГАВОРКА ІДЗЕ ПРА АТАМНУЮ ВАЙНУ І МАСАВАЕ ЗНІШЧЭННЕ ЦЯГАМ 10 ХВІЛІН, МАРВЕЛ. ТЫ БЛІЖЭЙ УСІХ ДА МАГНЕТА, І ТЫ САМЫ ДАСВЕДЧАНЫ БАЕЦ СЯРОД НАС. ЗРАБІ Ж ШТО-НЕБУДЗЬ!!!
ЗА ІМ НЕМАГЧЫМА САГНАЦЦА, ГЕНРЫ...


...ЁН ЗАНАДТА ІМКЛІВЫ!
УСЁ АДНОСНА Ў ГЭТЫМ СВЕЦЕ...


ВАМ ПАШАНЦІЛА, ІМКЛІВАСЦЬ – МАЯ ГАЛОЎНАЯ СУПЕР-ЗДОЛЬНАСЦЬ.


О БОЖА!..


ВОСЬ ШТО МОЖА ЗРАБІЦЬ ТОЙ, ХТО ЎСЁ ЖЫЦЦЁ ТРЫВАЎ ТВАЕ ЗНЕВАЖЭННІ І АБРАЗЫ, БАЦЬКА.


ЧАРЛЬЗ?


ДОБРЫ ДЗЕНЬ, ЭРЫК.


ДЖЫНА! ШТО ЁН РОБІЦЬ?
ПЕРАТВАРАЕ МАГНЕТА Ў СУПЕР-МАГНІТ... НА ШТО ЯШЧЭ ГЭТА ПАДОБНА?

ЧАРЛЬЗ, КАЛІ ЛАСКА! Я МАЛЮ ЦЯБЕ! ЗАХАВАЙ МНЕ ЖЫЦЦЁ, І, КЛЯНУСЯ, Я ЗРАБЛЮ ЎСЁ, ШТО ТЫ ЗАХОЧАШ!


ОЙ! ЯК БЫ ГЭТЫЯ ШТУКОВІНЫ НЕ ВЫБІЛІ НАМ ЗУБЫ!
УСЁ БУДЗЕ Ў ПАРАДКУ, БОБІ! ПРАФЕСАР ВЕДАЕ, ШТО РОБІЦЬ! ДАРУЧЫСЯ ЯМУ!


ЧАРЛЬЗ!


БОЖА! ПРАФЕСАРУ ДРЭННА. МНЕ ЗДАЕЦЦА, ЁН БЕЗ СВЯДОМАСЦІ.
НЕ ЧАПАЙ ЯГО, ПЁТР. ЯШЧЭ НЕКАЛЬКІ СЯКУНД ЁН ПАВІНЕН ПРАБЫЦЬ У ГАЛАВЕ МАГНЕТА...
...КАБ ПАЗБАВІЦЦА АД ЯГО НАЗАЎЖДЫ.




БЫВАЙ, СТАРЫ.
ПЕРАДАЙ ПРЫВІТАННЕ СТВАРАЛЬНІКУ.





Інстытут Хаўера для адароных падлеткаў.
THE XAVIER INSTITUTE FOR GIFTED CHILDREN
Добра, што ты зноў на нашым баку, Цыклоп.




Так, прыемна вяртацца дадому, сэр. Я рады, што мой зыход не бракаваў давер да мяне.
Не думай пра гэта. Скот. Ты ўшоў, калі табе гэта было неабходна. Астатняе не мае значэння.
Аднак, усё адбылося так, як я і жадаў.




А Расамаха?
На маю думку, Расамаха даказаў, што ён сапраўдны Ікс-Мэн, Скот.
Ён заўсёды жаданы госць у гэтым доме...




...Аднак... я чуў, што раніцай ён уязджае па нейкім неадкладным справам.




Сапраўды?! Я не ведаў пра гэта.
Ня трэба так яўна паказваць сваю заклапочанасць, містар Самерс.

ДАГЭТУЛЬ НЕ МАГУ ПАВЕРЫЦЬ У ТОЕ, ШТО АДБЫЛАСЯ Ў ВАШЫНГТОНЕ. ВЫ ЎПЭЎНЕНЫ, ШТО ЛЮДЗІ ЎЗРАДАВАЛІСЯ НАШАЙ ПЕРАМОЗЕ?

НУ, МЫ ТОЛЬКІ РАТАВАЛІ ЖЫЦЦЁ НАШАГА ПРЭЗІДЭНТА І ЯШЧЭ ТРОХСОТ МІЛЬЁНАЎ НАШЫХ ГРАМАДЗЯН. ЗДАЕЦЦА, ШТО РЭДКІЯ АПЛАДЫСМЕНТЫ, ЯКІЯ МЫ ЧУЛІ, НАЎРАД ЦІ БЫЛІ НЕЗАСЛУЖАНЫМІ.







